## Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

## ЖАЎРУК І ІНДЫК

— Спусціся на зямлю, Жаўрук,
Найлепшы будзеш мне сябрук, —
Прасіў расчулена Індык.
— Пад небам я лятаць прывык.
Даўно знаёмы з вышынёй.
Спявае сонейка са мной,
І гэту песню чуюць людзі.
Без вышыні мне сумна будзе.
— Хвалько! — Індык забалбатаў. —
Хоць я да неба не лятаў,
Але, як ты, змагу вісець,
На крылах хмаркі пасядзець.

---

Як ні напружваўся Індык,
З яго палёту выйшаў пшык.






Малюнак Алега ПАПОВА.




# Як віцебскіх «бытавікоў» быт «заеў»

Фельетон

Цікавыя справы, скажу я вам, з бытавымі паслугамі на Віцебшчыне. Асабліва ў сельскай мясцовасці. Там да паслуг вяскоўцаў маецца 271 комплексны прыёмны пункт. Во дзе можна разгарнуцца з бытавымі паслугамі ды такі бізнес наладзіць! Але, на жаль, бізнес нешта не ідзе...

Скажам, захоча вясковы чалавек паставіць помнік па нябожчыку. Калі ласка! Заказаць ён закажа, але пакуль той помнік забярэ, усе духі з яго дастануць. Не верыце?

Тады вы, напэўна, не ведаце, як жыхар вёскі Белюкоўшчына Ушацкага раёна заказаў ва Ушацкім раённым камбінаце бытавога абслугоўвання помнік? Во дзе ўжо заказчык нахадзіўся-наездзіўся!

— Вы зрабілі помнік? — спытаўся ён у «бытавікоў» у той дзень, калі паводле квітка помнік павінен быў быць выраблены, і чалавек, наняўшы транспарт, прыехаў яго забіраць. Наіўны прасцяк!

— Не, залаты вы мой заказчык, — пачулася ў адказ. — Ды дзе гэта вы бачылі, каб цяпер заказы адразу так у тэрмін і аддавалі? Прыедзьце хоць бы праз тыдзень.

Прыехаў чалавек праз тыдзень.

— Міленькія, ці зрабілі помнік?

— Эх, якія вы скорыя! Прыедзьце праз два тыдні — дакладна зробім.

— Дык па квітанцыі ўжо даўно павінны...

— Мала што квітанцыя і мала што павінны. У нас тут свае праблемы... Прыязджайце праз месяц — жалезна зробім.

Набраўшыся цярпення, чалавек прыязджае яшчэ праз месяц.

— Ну, як мой заказ?

— Не, ну што за чалавек! Надакучылі вы нам, аж у пячонках сядзіце. Хіба не ведаеце, што вяселле было ў суседа галоўнага майстра? А пасля вяселля — хрэсьбіны. А пасля хрэсьбінаў — грыбы пайшлі. А там бульбу капаць пазвалі... Ну, ніяк часу не было. І мы ж людзі, зразумейце нас. Прыязджайце яшчэ праз месяц. Як не арыштуюць рахункі за нявыплату за цэмент, то зробім помнік.

Сапраўды, зрабілі. Як сведчаць дакументы праверкі, заказчык атрымаў помнік ад ушацкіх «бытавікоў» праз 102 дні пасля той даты, якая ўказана ў квітанцыі! Сярод прычын такой пратэрміноўкі — і арышт рахунку, бо прадпрыемства стаяла на мяжы банкруцтва, і нават паніжэнне тэмпературы ніжэй нуля. Зіма прыйшла, словам. А якія работы з цэментным растворам, калі холад?..

Але ад «увішнасці» ушацкіх «бытавікоў» пацярпеў не толькі гэты вясковец, які займеў наіўную мару своечасова атрымаць заказаны помнік. Іншага заказчыка на выраб фотамедальёна ў тым жа Ушацкім КБА вадзілі за нос 75 дзён пасля ўказанага ў квітанцыі тэрміна. Затое бабульцы, якая фарбавала паліто, пашанцавала: яна абівала парогі ўсяго 51 дзень.

Во працаўнікі! Проста ўдарнікі бытавога абслугоўвання...

Калі ж ушацкімі «бытавікамі» мусіў заняцца Дзяржкантроль, то арганізаваў маштабную праверку чатырох раённых камбінатаў бытавога

абслугоўвання насельніцтва ўсёй Віцебшчыны. Кантралёры не паверылі ўласным вачам! Напрыклад, у будынку, які займае УКП «Ушацкі РКБА», умудрыліся на зіму не заклейваць вокны, зімавалі, як у вайну — без запасу дроў: таму ў кабінеце бухгалтэрыі, у фае адміністрацыйнага будынку, дзе сядзіць касір-прыёмшчык, тэмпература паветра вагалася ад $5^0$ да $12^0$С. Вядома, якая работа, калі з броваў іней звісае?!

Але, адзінкавы факт не стварае агульную карціну, бо асобныя раённыя камбінаты бытавога абслугоўвання Віцебшчыны працуюць нармальна. Наколькі нармальна можна працаваць на абсталяванні, набытым яшчэ за царом Гарохам. Куды ўжо там аказваць сельскаму насельніцтву дробныя бытавыя паслугі непасрэдна на комплексных прыёмных пунктах! Спектр паслуг з часоў перабудовы не пашыраецца — у тым ліку і па выкананні сельскагаспадарчых работ: узараць поле, абагнаць бульбу, абкасіць двор, спілаваць якую-небудзь сухую грушу, што пагрозліва навісла на шыферным дахам. Грошы пенсіянераў, як кажуць, пралятаюць міма дзяржаўнай касы, бо дастаюцца выпадковым людзям, і часта работа робіцца проста за «вадкую валюту». Таму адна 84-гадовая бабулька паабівала ўсе парогі, каб ёй абкасілі сцяжынку да ўласнай хаткі. Старая была гатовая заплаціць любыя грошы, але «бытавікі» аказаліся не гатовымі да аказання такой паслугі!

І гэта пры тым, пра дзяржава дбае пра развіццё сферы паслуг. Толькі ў Віцебскай вобласці ў 2011 і першым квартале 2012 года на гэтыя мэты было выдзелена 3,2 мільярда рублёў! Куды ж падзеліся гэтыя сродкі? Як сведчаць матэрыялы праверкі, пайшлі на ўласнае выжыванне. І гэтак адбываецца кожны год.

Зразумела, што калі галіна звужвае пералік паслуг і гэтым самым недабірае прыстойныя грошы, то ўжо пра такія высокадаходныя віды дзейнасці, як, напрыклад, устаноўка вокнаў ці аўтасервіс, і марыць не даводзіцца. Тут прыкра іншае — нават староннняму чалавеку зразумела, што ў «бытавікоў» «кульгае», як кажуць, вытворчая дысцыпліна. Чым іншым можна патлумачыць той факт, што літаральна ва ўсіх правераных прадпрыемствах бытавога аблугоўвання парушаўся графік выязнога абслугоўвання населеных пунктаў з колькасцю болей чым 100 чалавек. Замест «не радзей 1 разу ў 2 тыдні» ні разу не бачылі «бытавікоў» у студзені-сакавіку 2012 года 177 жыхароў вёскі Бірузова, 155 жыхароў вёскі Галубова, 145 жыхароў вёскі Юхавічы Расонскага раёна. Тыя ж расонскія «бытавікі» адзін раз за тры азначаныя месяцы з'ездзілі ў вёску Янкавічы, дзе налічваецца 364 жыхары.

Гэткая ж карціна агульнай недысцыплінаванасці і ў іншых раёнах Віцебшчыны. Па два-тры месяцы не было арганізавана выязное абслугоўванне ў васьмі населеных пунктах Дубровенскага і ў сямі — Ушацкага раёнаў. У кожным з такіх населеных пунктаў жыве ад 140 да 300 жыхароў. Вось яны і апынуліся кінутымі на «бытавое» самавыжыванне. Ні пастрыгчыся, ні падрамантаваць што, ні сфатаграфавацца...

Скажаце: «Неперспектыўныя вёскі, чаго туды ездзіць?» Ды не, у Дубровенскім раёне ўмудрыліся забыць пра існаванне комплексных прыёмных пунктаў і аказанне сельскаму насельніцтву бытавых паслуг нават у аграгарадках. Так, са жніўня 2010 года не працаваў КПП у аграгарадку Добрынь, з мая 2011 года — у аграгарадку Расасна. Адсутнічалі КПП у аграгарадках Чырына і Калінаўка. Начальства тлумачыць гэта тым, што рана ці позна гэтыя аграгарадкі будуць мэтанакіравана аб'ядноўваць з мэтай аптымізацыі. Вось тады, маўляў, і будзем, дзе належыць, рабіць тыя КПП. А да гэтага аб'яднання што, не стрыгчыся? Тут, як кажуць, паміраць збірайся, а грэчку сей. Не ў кожнай хаце ёсць швейная машынка, не кожны механізатар умее прыпаяць штэкер да тэлевізійнага кабеля.

І з кадрамі — бяда. Ва Ушацкім КБА на працягу мінулага года змяніліся тры галоўныя інжынеры, тры галоўныя і шэсць «звычайных» бухгалтараў. У тых жа Ушачах са студзеня 2012 года зачынены швейны цэх, адкуль з-за нізкай зарплаты (727 тысячы рублёў) звольніліся шэсць чалавек.

Пасля ўсіх гэтых сумных, трагікамічных і часам зневажальных фактаў хочацца спытаць: ці не «заеў» віцебскіх «бытавікоў» быт? Можа, ужо хопіць баяць казкі пра недахоп кадраў і вечную нястачу грошай, а варта заняцца справай?

**Антось ГАРЧЫЦА**







Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэмы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Міхась МІРАНОВІЧ

### МІРАНІЗМЫ

### Частка чорта

Вядома ўсім:
Ёсць штосьць ад чорта у жанчыны.
Але адзначым,
Што на думку многіх,
Ёсць штосьць ад чорта
І ў жанатага мужчыны,
І гэта «штосьць», звычайна, –
Рогі.



### Забалела галава…

Як было ў мяне раней
Не раз, не два –
Нешта зранку
Забалела галава.
Ды калі на ўсё
Крытычна паглядзець –
Хай баліць:
На ёй, прынамсі, не сядзець!..



### Недалюбліванне

Мужыкам прызнаўся неяк
Кум Кандрат,
Што хоць ведаў за жыццё
Жанчын нямала,
Ды здаўна ён
Недалюбліваў дзяўчат –
Далюбіць іх
Яму жонка не давала.



### Безадмоўнае віно

– ...Прызнанне зараз
Гэткае зраблю, –
П'янтос Мікіта
З сябрам размаўляе. –
Віно я болей,
Чым жанчын, люблю –
Віно ніколі мне
Не адмаўляе!..

*г. Віцебск.*





Малюнак Алега КУРПІКА.

### Пытанні без адказаў

Ці трэба цэліцца, каб трапіць пальцам у неба?

Чаго можна дабіцца, калі біць лынды?

Ці магчыма спяваць дыфірамбы пад фанеру?

Ці можа няверуючы чалавек падвесці пад манастыр?

Наколькі далёка можа зайсці чалавек, калі ў яго ногі заплятаюцца?

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




**Іван ЛАГВІНОВІЧ**

## МАНАЛОГ АБЛУДНАГА ЎНУКА

«Толькі дзед заўсёды дапаможа.
Каб не ён, напэўна б, я сканаў.
Больш ніхто не ахвяруе грошай,
Калі я жабрую з «бадуна».

Памаліцца і Айцу, і Сыну,
І Святому Духу пагатоў,
Каб мой дзед заўчасна не пакінуў
Гэты свет, а жыў да ста гадоў!»

*г. Баранавічы.*

# Навіны з МУС: матай на вус

### Веласіпедысты… з вялікай дарогі

***Мінск.*** Найвялікшую прадпрымальнасць праявілі двое 23-гадовых мінчан: літаральна за вечар, а дакладней, за пару гадзін змаглі павялічыць свой стартавы капітал з 30 тысяч да «фантастычнай» сумы ў 800 тысяч рублёў. Яны ўзялі ў пракаце спортінвентара па вуліцы Сталетава дарагія горныя веласіпеды і прадалі іх знаёмаму. Затым вярнуліся ў пракат, каб забраць закладзеныя пашпарты і сачынілі фантастычную гісторыю пра тое, як у іх… укралі веласіпеды. Пракатчык «фантастам» не паверыў, пашпартоў не аддаў і выклікаў міліцыю.

Неўзабаве гора-бізнесмены шчыра раскайваліся, як кажуць, ва ўчыненым. Цяпер за махлярства ім пагражае крымінальная адказнасць. А пакуль ёсць час падумаць над тым, як сумленна зарабляць грошы.



### Купальны сезон перанесены

***Брэст.*** Абнавіць свой гардэроб згодна з гарачым надвор’ем вырашыла 30-гадовая брэсцкая прыгажуня. З сябрам-аднагодкам (як і яна, раней судзімым і не абцяжараным працоўнымі абавязкамі) яны завіталі ў гандлёвы цэнтр «Берестейский пассаж» і выбралі дзве апошнія мадэлі купальнікаў коштам аж 600 тысяч рублёў у якасці… падарунка.

Але пакрасавацца на пляжы дзяўчыне не давялося. Служба аховы не праміргала парушальнікаў і замест таго, каб палежваць у пляжных шэзлонгах, яны апынуліся… на драўляных нарах ізалятара часовага затрымання.

Адкрыццё купальнага сезона перанесена на няпэўны тэрмін.

### Ружанскі Эйфель

***Брэсцкая вобласць.*** Калі кахаць, дык каралеву, а калі красці, дык… Гэтую абыходкавую ілжэісціну вырашыў праверыць жыхар г. п. Ружаны і накіраваўся ў вёску Астравок. Там на ферме, якая не працуе, ён паваліў з памочнікам старую воданапорную вежу ды стаў распілоўваць яе на кавалкі. На ягоную бяду, недалёка праязджаў дырэктар ААТ «Ружаны-Агра»…

Супрацоўнікам міліцыі «вежавы» зладзей патлумачыў, што хацеў на манер французскага інжынера Эйфеля, які паставіў знакамітую ў вяках вежу на берагах Сены, змайстраваць у сябе на агародзе падобны інжынерны шэдэўр. Міліцыянеры гора-інжынеру не паверылі, бо палічылі, што той намерваўся здаць добра пражавелую вежу на металалом і за 2 тоны 300 кілаграм жалеза атрымаць не вечную славу, а 3,5 мільёна рублёў прыбытку.

Цяпер толькі мясцовы суд вырашыць праўдзівасць намераў паслядоўніка Эйфеля.



### «Наехала» на мужа

**Бярозаўскі раён.** Не толькі Макаранка, а і Песталоцці заплакаў бы ад прыкрасці і расчаравання, даведаўшыся пра антыпедагагічную гісторыю адносін мужа і жонкі з Бярозы. Першы, прыхапіўшы спіртнога, паехаў за гараць, а другая, пераживаючы, што муж можа сесці за руль «пад мухай», вырашыла выкрасці ключы ад аўтамабіля… Але калі жанчына павярнула ключ запальвання, каб дастаць яго, то рухавік завёўся і аўто, якое стаяла на хуткасці, падалося наперад — якраз на мужа, які мірна спаў на пясочку. Вызваляць «другую палову» давялося з дапамогаю супрацоўнікаў МНС.

Мараль гэтай гісторыі простая: жонкі, будзьце асцярожныя, калі выхоўваеце мужоў!

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА




Малюнак Алега ПАПОВА.

# ІГОЛКАТЭРАПІЯ

## Падпольная «школа магаў»

***Брэсцкая вобласць.*** Некалькі гадоў запар у Кобрынскім райвыканкаме падпольна дзейнічала «школа магаў». «Выкладалі» ў ёй райвыканкамаўскія работнікі, якія займаліся пастаноўкай на ўлік грамадзян, што маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, а таксама фарміраваннем жыллёва-будаўнічых спажывецкіх кааператываў.

Якія толькі фокусы не практыкаваліся ў гэтых кабінетах! Хочаце без патрэбных дакументаў абысці чаргу? Калі ласка, узмах чароўнай палачкі, прабачце, шарыкавай ручкі — і ваша месца ў чарзе далёка наперадзе. Хочаце без лішняй цяганіны патрапіць у спіс на атрыманне ільготнага крэдыту? Калі ласка, росчырк чароўнай палачкі, прабачце, той самай шарыкавай ручкі — і вы ў запаветным спісе!..

Толькі праверка Дзяржкантролю спыніла кобрынскіх «магаў». Расследаваннем іх шматлікіх «фокусаў» зоймецца цяпер пракуратура Брэсцкай вобласці.

## Як Заблоцкі на мыле

***Любанскі раён.*** Дзве жыхаркі Любанскага раёна пагарэлі, як Заблоцкі на мыле, на... ялавічыне. Але спачатку гандляркі незаконна займелі ў 2010–2011 гадах 139 мільёнаў рублёў даходу. Пры гэтым прайдзісветкі набылі спецхаладзільнікі і аўтатэхніку, наймалі людзей для арганізацыі закупак бычынага мяса ў Глускім, Любанскім, Жыткавіцкім і Салігорскім раёнах. Набытая прадукцыя адпраўлялася або ў Мінск, або трапляла на неабсяжныя прасторы Расійскай Федэрацыі. Зразумела, без выплаты ніякіх падаткаў у бюджэт.

Як вядома, дождж змыліў тавар пана Заблоцкага. Але ён страціў толькі ўласны капітал, а вось дзве вельмі пранырлівыя асобы з Любаншчыны могуць страціць свабоду: у адносінах да іх узбуджана крымінальная справа і перададзена ва ўпраўленне Следчага камітэта Мінскай вобласці.

## Гара нарадзіла мыш

***Краснапольскі раён.*** Цалкам правальнымі аказаліся вынікі работы ўнітарнага камунальнага сельскагаспадарчага прадпрыемства «Краснапольскі» — адзінай на ўсю рэспубліку сельскагаспадарчай арганізацыі, якая ахоплівае цэлы адміністрацыйны раён. Пасля доўгай чарады аб'яднанняў і рэформ ўтварылася малапрыдатная для вытворчасці збажыны, мяса і малака структура. Па выніках 2011 года аб'ёмы вытворчасці асноўных сельгаскультур знізіліся напалову, а мяса і малака — на трэць. Накіраваныя на пад'ём вытворчасці мільярды (11,6 мільярда рублёў) належнага выніку не далі. Хто цяпер адкажа за прамарнаваныя дзяржаўныя сродкі — невядома...

## Горкі «ліпавы» мёд

***Гомельская вобласць.*** Гіганцкую «мядовую» аферу правярнулі двое дзялкоў з Гомеля. На ўласныя грошы яны набывалі ў Расіі і Украіне мёд, завозілі яго ў Беларусь і... здавалі раённым структурным падраздзяленням Белкаапсаюза. Пры гэтым карысталіся «ліпавымі» даведкамі, сертыфікатамі і даверанасцямі, якія пацвярджалі, што мёду нанасілі беларускія пчолкі на іх уласных пасеках.

Такім чынам з верасня 2010 года па чэрвень 2012 яны ўмудрыліся здаць больш за 20 тон пчалінай прадукцыі і атрымаць больш за 500 мільёнаў рублёў зусім не «ліпавага» прыбытку. Але на салодкае гэтых дзялкоў пацягне яшчэ не скора: у адносінах да іх узбуджана крымінальная справа. Што ж, бывае і ад мёду горка...

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржкантролю Рэспублікі Беларусь.***

Віншуем!

# РЭЦЭПТ ДАЎГАЛЕЦЦЯ




Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Барыс Паўлавіч БЕЛЕЖЭНКА не вельмі часта наведвае «Вожык», бо жыве далекавата – у Віцебску. Праўда, даволі рэгулярна даводзіцца сустракацца з ім па-зямляцку на розных культурных мерапрыемствах, што праводзяцца на Віцебшчыне. Нягледзячы на свае 75, Б. Бележэнка шмат выступае перад чытачамі. Дарэчы, ён не толькі піша «смешныя» творы, а і ўмее іх выдатна, артыстычна выконваць. Акрамя таго, Барыс Паўлавіч добра грае на гармоніку, можа выкінуць «каленца» ў танцы, іншым разам піша тэксты песень і музыку.

Адным словам, гэты чалавек-аркестр адзін можа даць канцэрт на паўтары гадзіны. Нездарма ён некалі кіраваў Бешанковіцкім раённым Домам піянераў і школьнікаў. Канешне, займаў Барыс Паўлавіч і больш сур'ёзныя, «дарослыя» пасады, у тым ліку намесніка старшыні Чашніцкага райвыканкама. І ўсё ж яго галоўнае прызванне – літаратура. Б. Бележэнка напісаў больш як дзесяць кніг прозы, паэзіі, гумару і твораў для дзяцей.

Валодае ён і яшчэ адным талентам – лекарскім, навучаўся ў цэнтрах народнай медыцыны ў Маскве і Кіеве. Так што многія сябры ведаюць яго і як народнага лекара. Ну, а мы, вожыкаўцы, лічым, што найбольш карысныя лекі «з аптэкі» Б. Бележэнкі – гэта гумар. Так што, дарагі чытач, лячыся па рэцэптах Барыса Бележэнкі!

**Павел САКОВІЧ**

## Барыс БЕЛЕЖЭНКА

**МІНІЯЦЮРЫ**

### З камянямі

Моўчкі ходзіць, паміж намі,
Нейкі злыдзень з камянямі.
Хоць за пазухай яны,
А што ёсць – па ім відны.

### Абы з рук

«Каб мне на гэтым месцы праваліцца,
Калі мы робім абы з рук!» –
Пачаў начальнік камунальны ганарыцца
І праваліўся у адкрыты люк.

### Дуб і Дубіна

Пасеяў Дуб адзін жалуд,
Хацеў ён мець сына.
Прарос жалуд, ды гора тут,
Бо вырасла Дубіна...

### Кульбіт з радыкулітам

Як лячыць радыкуліт?
Разагрэйся ў лазні
Дый у гурбіну – кульбіт!
І хвароба лясне.
Толькі май на ўвазе тое:
Ляснуць можаце абое!

### Два бакі

Ці абрыдла лайдаку
Век пралежваць на баку?
У яго – адказ такі:
– У мяне ж ёсць два бакі!
Дый не шкодзіць паварот
Мне са спінкі на жывот...






Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




У трэцім нумары часопіса ў рубрыцы «Вожыку» пішуць...» быў надрукаваны крытычны матэрыял Галіны Пінчуковіч з г. Мінска, у якім падымалася пытанне наконт прыстойнасці відэаролікаў, што паказваюцца ў сталічным метрапалітэне. На думку аўтара матэрылу, у відэакліпе, што нібыта рэкламаваў украінскую групу «Акіян Эльзі» (на самай справе кліп пад назваю «Сумленне» належыць беларускаму гурту «Happy Face») прысутнічалі негатыўныя моманты: прапаганда курэння, элементы эротыкі. А метро не з'яўляецца тым грамадскім месцам, дзе пасажырам усіх узростаў варта метадычна і навязліва (відэакліп, як сведчаць дакументы, дэманстраваўся ў метро ў студзені 2012 года 1576 разоў) паказваць непрыстойныя ролікі.

Матэрыял быў накіраваны на рэагаванне ў Мінскі метрапалітэн. Як высветлілася, выключныя правы на паказ рэкламы і відэаролікаў у Мінскім метрапалітэне належаць ТАА «БелРосРэклама». Як паведаміў у сваім адказе дырэктар гэтай установы І. Байкоў, «..все размещаемые в эфире музыкальные видеоклипы проходят тщательный отбор... на предмет соответствия эстетическим и этическим нормам», а «... все клипы, транслирующиеся на наших экранах с 01.01.2012 г. – это клипы только белорусских исполнителей и приняты к размещению на всех каналах Белорусского телевидения для трансляции в молодежных и музыкальных программах».

Менавіта гэты сумнеўны відэакліп рэдакцыя і накіравала ў Міністэрства культуры ў Дэпартамент па кінематаграфіі, дзе створана спецыяльная Класіфікацыйная камісія для вызначэння ўзроставай катэгорыі кінавідэапрадукцыі. Намеснік дырэктара – начальнік упраўлення кінавідэапрадукцыі Дэпартамента С. Шыцікава ўважліва вывучыла сітуацыю і падзякавала рэдакцыі часопіса «...за актыўную грамадзянскую пазіцыю і ўвагу, якую надае Ваша выданне праблемам маральнага здароўя нацыі». А таксама патлумачыла, што Камісія з'яўляецца калегіяльным органам, у які ўваходзяць службовыя асобы Дэпартамента, Міністэрства адукацыі, Мінскага гарвыканкама, кваліфікаваныя спецыялісты ў галіне кінематаграфіі, мастацтвазнаўства і педагогікі. Калі ў фільмах маюць месца эпізоды гвалту, жорсткасці, ненарматыўная лексіка, матэрыялы на фільм передаюцца для адпаведнага заключэння ў Рэспубліканскую экспертную камісію па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці (РЭК), якая вызначае магчымасць распаўсюджання названых фільмаў і ўмовы іх пракату і паказу.

Відэакліп «Сумленне» беларускага гурта «Happy Face» раней на разгляд Класіфікацыйнай камісіі не падаваўся. Пасля прагляду і абмеркавання названага відэакліпа дадзенаму відэаролiку быў прысвоены класіфікацыйны індэкс «** – дзецям да 14 гадоў дазваляецца прагляд з бацькамі і педагогамі». Між тым, заканадаўствам Рэспублікі Беларусь не прадугледжаны абмежаванні па часе і месцы паказу відэапрадукцыі, якой прысвоены дадзены індэкс...

Атрымліваецца, з аднаго боку, што калі відэакліп мае такое абмежаванне, то дэманстрацыя яго ў Мінскім метрапалітэне аўтаматычна забараняе знаходжанне там дзяцей да 14 гадоў без бацькоў і педагогаў. Але, з другога боку, у Мінскім метрапалітэне ніякіх узроставых абмежаванняў для карыстання гэтым відам грамадскага транспарту не прадугледжана. Значыць, ездзіць у метро можна і да 14 гадоў, а глядзець такія кліпы – не. Вось які юрыдычны казус атрымліваецца!..

Па каментарыі мы звярнуліся і ў Беларускі дзіцячы фонд. Юрыст А. Бакулін адназначна ацаніў сітуацыю: адбыўся факт найгрубейшага парушэння правоў дзіцяці. Парушаны артыкул 22 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб правах дзіцяці», дзе дэкларуецца, што дзіця мае права на абарону ад уздзеяння прапаганды гвалту, парнаграфіі і г. д.

Як вядома, СМІ не з'яўляюцца ўладнымі органамі. Любое выданне ўсяго толькі акцэнтуе ўвагу на пэўных праблемах, падказвае шляхі іх вырашэння, спрабуе аб'ектыўна разабрацца ў сітуацыі... «Вожык» узняў «не дзіцячае» пытанне, паказаў, што часам нават у «дробязным» выпадку нельга знайсці канцоў і што гаварыць пра абарону правоў дзіцяці нашмат лягчэй, чым паспрабаваць абараніць яго ў нашай рэчаіснасці ад парнаграфіі, гвалту і жорсткасці...

**Анатоль ГАРАЧОЎ**

# АЎТАМАГНЕТО



*Быль*

Зайздросціць багаццю бацькоў майго кума не варта, бо не з неба яно ім звалілася, а цяжкай сялянскай працай нажыта было. Дый не для сябе, для дзяцей рупіліся. І старэйшаму сыну дапамаглі, і дачцэ. І самаму меншаму, куму майму, як толькі з арміі прыйшоў, «Масквіча» купілі. Новенькага, толькі з канвеера. Гойсаў той, гойсаў на ім... Бацькі не пярэчылі, бо іх таксама вазіў, куды загадаюць. З палівам сам выкручваўся: шафёрам жа працаваў.

Але паступова дакучаць тое гойсанне пачало. Сумнавата неяк без музыкі.

— Вось каб аўтамагнітолу яшчэ! — марыў кум.

Аўтамагнітола тады каштавала вельмі дорага — ажно трыста рублёў на тыя грошы. Ды якіх рублёў! Кажуць, за той рубель ажно два долары давалі. (Давалі, але не ўсім.) Сабраць гэткую суму кум не мог, бо зарабляў у калгасе не больш за сотню ў месяц. (Па праўдзе кажучы, мог, вядома, каб цярпенне меў, але яго якраз і неставала.) А сказаць бацькам, што грошы патрэбны на «весялуху», не адважваўся.

Але аднойчы, калі вёз іх на кірмаш, між іншым заўважыў:

— Штосьці рухавік слаба цягне. Відаць, аўтамагнітолу купляць трэба.

— А колькі ж каштуе тое аўтамагнето? — спалохана пераглянуліся бацькі.

— Ды рублёў трыста, — адчуўшы, што «рыбка клюнула», адказаў кум.

— Ну, трыста знойдзем, — з палёгкай уздыхнулі старыя.

У той жа дзень грошы былі «знойдзены», а назаўтра кум махнуў у абласны цэнтр, бо толькі там можна было набыць «запчастку для рухавіка». Прыпёр магнітолу дахаты. Адразу ж прыладзіў туды, дзе ёй было прыдумана месца, і паехаў, музыку на ўсю моц уключыўшы. А па дарозе сястру са шваграм наведаць захацеў.

У швагра ажно сківіца ад зайздрасці адвісла. У таго таксама «Масквіч» быў. Кум усё зразумеў з першага погляду і тут жа прапанаваў швагру сваю прыдумку: «Давай скажам Ядзі, што я купіў аўтамагнітолу, а яна не падыходзіць, не становіцца куды трэба. А ў вашу машыну — у самы раз. Ну хіба жанчына разбярэцца, што ў нас мадэлі аднолькавыя?» І аўтамагнітола ў імгненне вока перабралася ў шваграў легкавік. Сястра, хоць і з неахвотай, аддала брату грошы, якія ён «дарэмна» патраціў.

А раніцою, калі тая пайшла на працу, з'ездзілі ў Гродна і набылі яшчэ адну аўтамагнітолу. Затым гэтую справу «абмылі»...

Калі ж малодшы сын нарэшце з'явіўся дамоў, першым пытаннем бацькоў было:

— Ці купіў жа ты тое аўтамагнето?

— Купіў, — адказаў сын. — Усе ногі збіў, а — знайшоў.

— Дык дай на яго хоць вокам глянуць! — загарэліся старыя.

— А што там глядзець, вы лепш паслухайце, — адказаў сын і даў грымотнай гучнасці.

— Цьфу ты! — плюнулі старыя. — На нейкія «бугі-вугі» ажно трыста рублёў пайшло!

Вось і зразумей гэтых бацькоў. За аўтамабіль сем тысяч аддалі, а на музыку нейкіх трох соцень пашкадавалі!..

*Іўеўскі раён,*
*в. Даўнары.*



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Хітрыя шпакі

Зноў шпакі на вішню
Зранку пpыляцелі.
З хаты Коля выйшаў:
«Што, не ўсю аб'елі?»
Слухаюць з увагай —
Не патрэбны слоўнік.
«Я ж вам, небаракі,
Збудаваў шпакоўні.
Хай бы самі елі,
Дык пазвалі зграю!»
Быццам зразумелі —
Да суседкі Раі
Паляцелі разам
Нашы і чужыя.
Хітрыя, заразы,
І на Колю злыя.

*г. Барысаў.*



# Як стала вядома...

## Лабараторыя запрацавала

Першы намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама М. Юхімук уважліва вывучыў сатырычны матэрыял «Прагноз для сіноптыкаў» («Вожык» № 4 за 2012 год) і патлумачыў, што абсталяванне, закупленае ў кастрычніку 2010 года ў мэтах рэалізацыі Нацыянальнай сістэмы маніторынгу навакольнага асяроддзя для адкрыцця аналітычнай лабараторыі ў г. Баранавічы, несвоечасова было ўведзена ў эксплуатацыю з-за адсутнасці памяшкання для лабараторыі і несвоечасова праведзеных кіраўніком ДУ «Брэстаблгідрамет» арганізацыйных мерыпрыемстваў. У маі 2011 года кантракт з начальнікам гэтай установы не быў працягнуты. Пасля прызначэння новага кіраўніка ўсе неабходныя захады былі зробленыя, і з 1 чэрвеня 2012 года лабараторыя радыяцыйна-экалагічнага маніторынгу ў г. Баранавічы пачала сваю работу.

## Паніжэнне па пасадзе

«Штрафны» лес» («Вожык» № 5 за 2012 год) сапраўды вырас на тэрыторыі Старобінскага і Любанскага лясгасаў, пацвердзіў галоўны ляснічы Мінскага дзяржаўнага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання Я. Крыскевіч. А таксама паведаміў, што за нядобрасумленныя адносіны да выканання службовых абавязкаў, састаўленне фіктыўных дакументаў за парушэнне лясного заканадаўства майстар па ахове і абароне лесу В. Бунцэвіч Старобінскага ляснiцтва пераведзены на пасаду лесніка. Пытанне аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб Любанскага лясгаса будзе разгледжана пасля заканчэння следства па гэтай справе.

## Памылкі на этыкетцы выправілі

Першы намеснік старшыні Лідскага райвыканкама М. Клімук вывучыў пісьмо С. Лапцёнка, надрукаванае ў пятым нумары «Вожыка» за 2012 год у рубрыцы «Вожыку» пішуць...», і запэўніў, што з кіраўніцтвам ААТ «Гандлёвы дом «Лідскі», якое выпякае хлеб «Паланга цёмная», праведзена тлумачальная работа і ўказана на неабходнасць унясення змен пры афармленні этыкетачнай прадукцыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі стандартаў і правіламі правапісу. Як паведаміў дырэктар таварыства П. Скачкоўскі, новыя этыкеткі на хлеб ужо заказаны.

## Спірт канфіскавалі

«Мара пра мора» («Вожык» № 5 за 2012 год) дарага каштавала жыхару г. Бабруйска: рашэннем суда Бабруйскага раёна і г. Бабруйска на яго накладзены штраф у памеры 17500000 беларускіх рублёў, а нехарчовы этылавы спірт агульным аб'ёмам 1620 літраў канфіскаваны. Пра гэта нас праінфармаваў начальнік упраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама В. Волкаў.

## Субсідыі вернуты ў бюджэт

Намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама В. Дзяшко прачытаў сатырычны матэрыял «Захварэлі на... шчодрасць» («Вожык» № 5 за 2012 год) і паведаміў, што матэрыялы па справе грамадзянкі Т. Федарчук, якая адмовілася вяртаць у бюджэт залішне выплачаную субсідыю ў памеры 40886800 рублёў, былі перададзены ў пракуратуру Ленінскага раёна г. Гродна. Пакуль вернуты 18 мільёнаў 500 тысяч рублёў. Аднаразовая субсідыя ў памеры сямі мільёнаў рублёў на будаўніцтва кватэры А. Бабко поўнасцю вернута ў бюджэт.

Галоўнаму спецыялісту аддзела жыллёвай палітыкі адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г. Гродна за дапушчаную тэхнічную памылку аб'яўлена заўвага. А дзейнасць асобных службовых асоб гэтай адміністрацыі па пытаннях пастаноўкі на ўлік і прадстаўлення зямельных участкаў для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва разгледзіць упраўленне па Гродзенскай вобласці Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Міністэрства ўнутраных спраў.

## Уся справа — у цане

Намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама М. Крывецкі ўважліва вывучыў крытычны матэрыял «Паслядоўнікі Мендзялеева» («Вожык» № 6 за 2012 год) і патлумачыў сітуацыю. Паколькі ў I квартале 2011 года ААТ «Торфабрыкетны завод «Гатча-Асаўскі» пастаўляла фрэзерны торф на Пружанскую міні-ЦЭЦ па цане 105516 рублёў за 1 тону, а ААТ «Жыткавіцкі ТБЗ» прапанавала пастаўляць такі ж торф у тры разы танней — па цане 35575 рублёў за 1 тону — РУП «Брэстэнерга» было прынята рашэнне аб заключэнні дагавора на пастаўку фрэзернага торфу з II квартала 2011 года на міні-ЦЭЦ з Жыткавіцкім торфабрыкетным заводам. Між тым, у адпаведнасці з дзяржпраектам за кошт сродкаў інавацыйнага фонду Міністэрства энергетыкі на торфапрадпрыемстве ўведзена ў эксплуатацыю станцыя па перагрузцы торфу, і торфапрадпрыемствам прапанавана пастаўляць на міні-ЦЭЦ фрэзерны торф па прымальным для РУП «Брэстэнерга» кошце. Неўзабаве гэтае прадпрыемства мяркуе заключыць дагавор на пастаўку торфу з ААТ «Торфабрыкетны завод «Гатча-Асаўскі».

## Скардзіцца няма на што

У рэдакцыю часопіса паступіла калектыўная скарга ад жыхароў вёскі Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці на дрэннае ўтрыманне дарожкі, якая вядзе да прыпыначнага пункта Качанава і няўвагу мясцовых улад да гэтай праблемы. Таксама жыхары скардзіліся на 20-гадовую адсутнасць у вёсцы грамадскай лазні.

Старшыня Патапаўскага сельскага выканкама А. Шкандратава разгледзіла зварот і заўважыла, што да п. п. Качанава пракладзена дарога з асфальтавым пакрыццём, але людзі, каб скараціць шлях, самавольна праклалі сцяжынку праз прысядзібныя ўчасткі грамадзян. Добраўпарадкаваная лазня знаходзіцца ў 7 кіламетрах ад вёскі Патапаўка ў г. Буда-Кашалёва, куды рэгулярна (пяць разоў на дзень туды і назад) ходзіць чыгуначны транспарт. Акрамя таго, больш за палову падворкаў грамадзян сельсавета маюць індывідуальныя лазні і душавыя кабіны.




## ОДА ГАРМОНІКУ

Ва ўсе часы на Беларусі
(І ў гэтым я не памылюся)
Гармонік наш народ любіў –
Ад суму ён збавеннем быў.
Каму, як нам, сябры, не ведаць:
Пачуць гармонік – як паснедаць.
Ён лечыць душы пакрысе,
Настрой і радасць нам нясе.
Пачуўшы кнопак пераборы,
Паздаравее нават хворы.
Ён нам здароўе гарантуе
І лепш за доктара ратуе.
Бадзёрыць без віна, малодзіць,
Нас узбуджае і заводзіць.
Па праўдзе кажучы, паверце,
Гармонік нам не дасць памерці!

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Малюнак Алега ПАПОВА.

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

# ЦУДАДЗЕЙНАЯ «МІКСТУРА»

*Анекдот рыфмаваны*

Сустрэліся аднойчы дзве кабеты пагаманіць аб тым, аб сім, аб гэтым. Гадзіны з дзве, напэўна, гаманілі, усім знаёмым косці перамылі, усім сяброўкам, блізкім і далёкім, замужнім і, вядома ж, адзінокім... І вось да мужыкоў чарга дайшла...

– Якой жа я дурніцаю была! – адна з кабетак лямантуе-плача. – Напэўна, з глузду з’ехала, няйначай, калі ішла за гэтую «халеру»! Не ведае ні продыху, ні меры! Гарэлку тую жлукціць, як ваду! Во выйшла замуж на сваю бяду!

Суседка ёй: – Ды хто ж цяпер не п’е! Галоўнае – што ён цябе не б’е! Вунь у Кругловай Манькі не такі: як вып’е – распускае кулакі! Ды каб за што было – б’е, ну, проста так, і зноў з работы звольніўся, лайдак! Твой хоць працуе і цябе не б’е...

– Ну так, заробак спраўна аддае. Ды і да боек справа не даходзіць, – кабета кажа, – але ж ён прыходзіць дамоў «пад мухай» ну, лічы, штодня! Уваліцца, заўсёды, як свіння, баўцель у ложак і храпе да рання. А мне... за што такое пакаранне! Сяджу і плачу, думаю панура...

– Ёсць сродак, па-вучонаму: мікстура! – сяброўка тут загадкава гаворыць. – Мікстура тая проста цуды творыць! Яна якраз ад гэтае заразы: як прыме – больш не вып’е ўжо ні разу! Не толькі піць – але й глядзець не зможа...

– Дык што за сродак? Можа, дапаможа? – з надзеяю кабета запытала. – Мо трэба, каб шаптуха пашаптала? Пашэпча... Можа, й адвядзе бяду. Ды я ж яго туды не завяду, бо ён не пераносіць ні на дух ні дактароў, ні ўсякіх там шаптух...

– Ды не! – сяброўка весела смяецца. – Ні весці, ні шаптаць не давядзецца! Мой сродак іншы: заўтра, адвячоркам, пастаў яму маленькае вядзерца гарэлкі. Нават лепш калі – віно, бо не такое моцнае яно...

– Ты што?! – кабета залямантавала. – Вось гэта сродак ты прапанавала! Ён выжлукціць і вокам не міргне!

– Не, любая мая сяброўка, не! Ты толькі кошку здохлую знайдзі, яе ў вядзерца тое пакладзі...

– Ты што?! Ды не было б якой бяды!

– Павер, сяброўка, сродак хоць куды! Ён піць пачне (пачне, а як жа йначай), ды толькі кошку ў тым вядзерцы ўбачыць – яму адразу ж выверне вантробы! А потым ад адзінай толькі спробы... Ды што ад спробы, з паху аднаго так выварочваць пачне яго, што назаўсёды зарачэцца піць...

Згаджаецца кабета: – Так і быць!

І вось назаўтра (а была субота) бярэцца жонка ўрэшце за работу. У краме таннага віна ўзяла і кошку дзесьці здохлую знайшла. Затым усё абставіла, як трэба: на стол – цыбульку, сальца, лусту хлеба. Ну, а замест кілішка – чарпачок. Муж той прыходзіць, а яна – маўчок. З хвіліну, можа, гэтак памаўчала і да сяброўкі жвава паімчала.

І вось удзвюх ужо сядзяць, варожаць. Сядзяць, а думкі розныя трывожаць, хвалююць, не выходзяць з галавы. Як там ды што? А можа, нежывы, халодны, спруцянелы сярод хаты ляжыць з тае «мікстуры» праклятай?

– Не! – кажа жонка. – Болей не магу! Ты тут сядзі, а я дык пабягу!

Яна бяжыць, а сэрца так і скача. Якія ж жахі ў хаце яна ўбачыць?! Забегла ў сенцы – ды бачком, бачком... А муж яе сядзіць над чарпачком! Жывы, вясёлы, клопату не мае і кошку тую дохлую трымае! І, як бялізну, кошку – жах які! – ён круціць, цісне ажно ў дзве рукі! І просіць, моліць:

– Коцічак, каточак! Ну, нацадзі яшчэ хоць на глыточак!

*г. Чэрвень.*




# ВІНШУЕМ ПЕРАМОЖЦАЎ!

**Завершаны «юбілейны» конкурс**

*(Працяг. Пачатак у № 6, 7 за 2012 год).*

## ЗААХВОЧВАЛЬНЫЯ ДЫПЛОМЫ І ГРАМАТЫ

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**




Ігнась Друшчыц і Васіль Пячонка — суседзі. У адным пад'ездзе жывуць, і дачы ў іх побач стаяць, за добрай бяседай і па чарцы не раз бралі...

А то прыехаў неяк Ігнась на дачу і аж за чуб узяўся. На разоры, што раздзяляла два ўчасткі, быў пракапаны глыбокі раўчук. «Што ж здарылася? — не мог зразумець Ігнась. — Якая чорная кошка паміж намі прабегла?» Вырашыў разабрацца: купіў пляшку гарэлкі і паклікаў суседа да сябе.

Калі развязаліся языкі, Ігнась спытаў нарэшце пра злашчасны раўчук.

— Жонка падвучыла, — шчыра прызнаўся Васіль, — каб вашы каларадскія жукі не перабраліся да нас. А то жах, што яны твораць на бульбе!

— І ў мяне таксама, — пагадзіўся Ігнась. — Толькі такі роў ім перашкодай не будзе.

— А калі яго вадой запоўніць?

Але Віцька Друшчыц-малодшы, які сядзеў убаку і чуў размову старэйшых, упэўнена заявіў:

— Не дапаможа! Яны ж цераз Атлантычны акіян перабраліся, каб трапіць у Еўропу, а тут нейкі раўчук...

— І то праўда! — уздыхнулі Ігнась з Васілём, а Віцька, памаўчаўшы, сказаў:

— Вось каб агароджа была з металічнай сеткі, ды электрычны ток па ёй пусціць — іншая справа. Падляціць жук, а яго — трах — і няма!..

— Праўда, праўда! — аж падхапіўся з месца Васіль Пячонка. — Гэта ж добрая рацпрапанова. Трэба, каб твой Віцька патэнт на яе атрымаў, — і дадаў у захапленні: — Разумны ў цябе, Ігнась, хлопец расце!

— Неразумных не робім! — горда адказаў сусед.

Хто ведае, куды б завяло іх захапленне той рацпрапановай, ды праз хвіліну Віцька сам яе «зарэзаў»:

— Не, усё гэта дрэнь! Яны ж цераз Атлантычны акіян, а тут... Эх, лепей жыць так, як раней жылі: без раўчукоў ды агароджы!

Старэйшыя згодна заківалі галовамі і пайшлі засыпаць раўчук. Віцька памагаў ім. Загладзілі так, быццам таго рова і не было ніколі.

Назаўтра суседзі ўбачылі на мяжы плакат. Віцькавай рукой на ім былі выведзены тры словы: «Мір! Праца! Дружба!»

— Правільна! — хмыкнуў Ігнась.

— Мы ж на першамайскай дэманстрацыі такія транспаранты насілі, — успомніў Васіль. — Разумны хлопец!

— Неразумных не робім! — з гонарам паўтарыў Ігнась.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## Пажар



Прыйшоў дамоў п'яны Савось.
Яму прымроілася штосьць.
Пралупіў спрасонку вочы,
Што былі апухлі з ночы.
Толькі выйсці захацеў —
Ледзь ад страху не самлеў:
Дзе ні лэпне — ўсё сцяна,
Не пускае йсці яна...
Клікаць стаў на дапамогу,
Біць, спалоханы, трывогу:
— Ой, ратуйце! Выручайце!
Мне якоесь рады дайце!
Адчыніце хутчэй дзверы,
Бо згару я. Дайце веры!..
Ўсе паўскаквалі на ногі:
— Дзе пажар? Чаму трывога?
Запалілі ўраз святло.
Ў доме — гам, перапалох...
А Савось стаіць, маргае,
У чым справа, сам не знае...
Жонка пляснула у ладкі:
— Гаспадар! Вы гляньце, браткі!
То нутро ў цябе гарыць.
Перастань, п'янюга, піць!






## Анекдоты ад Аркадзя ГУРСКАГА

– Вы не падкажаце, калі мне трэба сысці, каб трапіць на Дзерыбасаўскую?

– Пільнуйцеся мяне і выходзьце на адзін прыпынак раней.

☺☺☺

Хлопчык вяртаецца са школы. Бацька цікавіцца:

– Цябе сёння выклікалі?

– Так, а заўтра выклікаюць цябе...

☺☺☺

Дзве дрэсіроўшчыцы сабак выхваляюцца:

– Мая Моська чытае газеты!

– Ведаю, мне пра гэта мой Шарык казаў.

☺☺☺

Муж прыйшоў дахаты добра падпіўшы.

Жонка:

– Ты дзе быў?

– Ды ў Пецькі, у карты гулялі.

Жонка звоніць па тэлефоне:

– Пецю, мой у цябе быў?

– Так, ён і цяпер сядзіць.

☺☺☺

Урач кажа хвораму:

– Прыміце сёння дзве таблеткі. А заўтра, калі прачнецеся, яшчэ дзве.











Малюнак Пятра КОЗІЧА.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ПАЭТЫ

Пра спякоту на зыходзе лета
Кожны з іх стварыў даўжэзны верш.
Потым правінцыйныя паэты
Вырашалі, хто з іх піша лепш...

Надрукуюць у газеце вершы.
Ганарар прапіўшы да рубля,
Будуць зноў спрачацца, хто з іх першы
І на кім трымаецца зямля.

*г. Жабінка.*



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

**Васіль ТКАЧОЎ**

## Піша...




*З натуры*

Самадзейная паэтэса-пенсіянерка Пацярухіна жыве адна. І ці то ад суму, ці то па патрэбе душы ўзялася пісаць вершы. А калі гасцявала ў дачкі ў сталіцы, пазнаёмілася ў кніжным магазіне з цікавым чалавекам.

– Я магу дапамагчы вам выдаць кніжку вершаў, – сказаў ён адразу ўпэўнена і пераканаўча. – Слухайце ўважліва. Я заключаю з вамі дамову і выдаю вашы вершы. Вы прадаяце кніжку і вяртаеце мне грошы. Вядома, з наварам. Вось адрас...

Кнігу вершаў «Пегас на Алімпе» выдалі хутка. Засталося збыць. Пацярухіна круцілася як вавёрка ў коле: інтэрнаты, электрычкі, паэтычныя вечары... Пакрысе аддавала выдаўцу грошы.

Той часта тэлефанаваў:

– Ну, як ідуць справы?

– Стараюся. Засталося аддаць пяцьсот даляраў...

– Так і быць, даю яшчэ тры месяцы. Дзейнічайце!..

Пацярухіна зноў прыехала да дачкі і радасна паведаміла: «Даў яшчэ тры месяцы! Пяцьсот даляраў засталося аддаць!» У зяця выслізнуў з рук кубачак з кавай... Крыху апрытомнеўшы, ён перапытаў:

– Яшчэ тры месяцы?! Будзеце жыць у нас?!

– А дзе ж? – здзівілася паэтэса.

– Кажаце, пяцьсот? – удакладніў зяць.

– Але, пяцьсот!

Ён нічога больш не сказаў, а назаўтра ўручыў цешчы пяць зялёных паперак.

Цяпер Пацярухіна сядзіць дома. Піша новую кніжку...

*г. Гомель.*

**Вячаслаў БУРДЫКА**




*Апавяданне*

Пабываць у Траццякоўскай галерэі брэсцкі мастак Міхаіл Касец марыў з маленства. Яго сябры старанна абыходзілі гэту тэму ў размовах, бо на ўласнай скуры — і не аднойчы! — паспелі пераканацца: Мішка ўчэпіцца ў суразмоўцу, як клешч, і не выпусціць, пакуль не выдасць усю вядомую інфармацыю пра самую вядомую, як ён лічыў, мастацкую галерэю свету.

Мікалай Монцік, маскоўскі прадпрымальнік, гаспадар буйной будаўнічай фірмы, ведаў пра гэту слабасць майстра мальберта і пэндзля, бо вырас з Касцом у адным двары. Сустракаліся не часта — пару разоў на год, калі Монціку ўдавалася выбрацца на дзень-другі ў Брэст. У родным горадзе ён адразу ішоў у майстэрню сябра на набярэжнай Мухаўца. Падымалі за сустрэчу чарку. А потым — размовы, размовы...

— Ты ведаеш, Мішка, у Маскве зусім іншы рытм жыцця, — пачынаў споведзь Мікалай звычайна пасля другой чаркі. — Падумаць некалі, спыніцца, азірнуцца, асэнсаваць зробленае... Вар'яцкі дом, а не горад! Грошы — аб'екты — грошы... Недзе паўгода вытрымліваю. А потым, адчуваю, што трэба дадому, у Брэст. Аддыхацца, з табой сустрэцца... Слухай! А што гэта ўсё я ды я да цябе прыязджаю? Давай калі-небудзь і ты да мяне... У Траццякоўку тваю сходзім, ты ж з дзяцінства марыш... Давай, Мішка, памрэш хутка, так і не ўбачыўшы калекцыю братоў Траццяковых...

— З табой сходзіш, бадай што, толькі ў рэстаран ці ў казіно, — уздыхнуў Касец. — Ведаю я цябе, мільянера!

— Клянуся! Ніякіх рэстаранаў і казіно, — стукнуў сябе кулаком у грудзі Монцік. — Толькі ў Траццякоўку... Я, дарэчы, быў там аднойчы. Нічога цікавага... Але дзеля сябра зноў пайду. Давай, Міша, я цябе прашу! А грошай на білет — дам. І туды, і назад. Яшчэ і сутачныя выплачу...

— Здзекуешся, так? Сорамна мне ў цябе грошы браць!

— Ну, дурань, знайшоў чаго саромецца?! — Мікалай грукнуў кулаком па стале. — Мецэнаты заўжды мастакоў падтрымлівалі! Тыя ж браты Траццяковы хоць бы... Вось і я ў цябе буду накшталт фундатара. Галерэю сваю адкрыць — машна не дазваляе пакуль. А на паездку ў Маскву грошы дам. Трымай аванс!

Монцік дастаў з кішэні партаманет, выцягнуў адтуль некалькі купюр і паклаў на стол:

— Зваротны білет у Маскве вазьму. Калі Траццякоўка надакучыць.

— Траццяковы! Што вы, «новыя рускія», пра іх ведаеце?! — пасля трох чарак Мішка «паплыў» і яго пацягнула на любімую тэму. А тут яшчэ Монцік сам яе закрануў. — Ты хоць ведаеш, чаму Павел Міхайлавіч Траццякоў сваю мастацкую галерэю вырашыў стварыць? Якія першыя карціны набыў?

Вось бачыш, не! Дык ведай, гэта былі «Сутычка з фінляндскімі кантрабандыстамі» Худзякова і «Спакуса» Шыльдэра. А чаму? Бо яны адпавядалі яго разуменню «праўды жыцця». Павел Міхайлавіч цаніў у выяўленчым мастацтве перш за ўсё мастацкую праўду і шчырасць!..

— Ціха-ціха! — Монцік, пратэстуючы, выцягнуў перад сабой абедзве далоні. — Я ж сказаў, што нічога ў гэтым мастацтве не разумею. Падабаецца табе Худзякоў — глядзі на Худзякова. Не падабаецца Пікасо — не глядзі на Пікасо... Мне асабіста па барабану. Лепш адкажы, прыедзеш да мяне ў Маскву ці не?

— Не! — Касец шырока ўзмахнуў рукой — і парожнія чаркі і талеркі з закускай пасыпаліся са стала на падлогу. — Таму што ты — варвар! Не гавары пра тое, пра што разумення не маеш: Худзякоў, Пікасо... Траццякоў збіраў толькі карціны рускіх мастакоў, прыхільнікаў рэалістычнага і крытычнага накірунку ў мастацтве. Ніякіх іншаземцаў, ніякіх імпрэсіяністаў-мадэрністаў!

Сорак гадоў бесперапыннага падзвіжніцтва... Сорак гадоў высакароднай працы дзеля мастацтва... Ён аддаў на пакупку карцін і ўтрыманне галерэі больш за паўтара мільёна рублёў! Ты ўяўляеш, як гэта многа?! Важкіх царскіх рублёў! А потым перадаў галерэю ў дар гораду Маскве. Бясплатна. Знойдзецца сёння мецэнат такой велічыні ў Расіі? Вы ўсё толькі сабе... Замкі пад Парыжам... Залатыя сарціры ў Маскве... Футбольныя клубы ў Лондане... Здзіўляюся, як не падавіцеся.

— Ты чаго гэта, Мішка? — Мікалай аслупянеў ад такога націску. — Я тут пры чым? У мяне няма залатога сарціра. І клуба футбольнага таксама не маю. Ні ў Лондане, ні ў якім іншым горадзе свету. Не кіпяціся!.. Давай лепш яшчэ па адной...

І вось Касец прадаў сваю карціну. Прадаў зусім выпадкова нейкаму іншаземцу — ці то італьянцу, ці то мек-

*Працяг на старонцы 16.*

Праця. Пачатак на старонцы 15.

сіканцу. За трыста долараў. Мастак даўно ўжо не трымаў у руках такіх вялікіх грошай і ніяк не мог вырашыць, на што іх патраціць. І за майстэрню трэба заплаціць, і сыну ўжо год абяцае дапамагчы машыну адрамантаваць, і жонка просіць новыя чаравікі... Трохсот долараў яўна не хапала на ўсё гэта, і Касец махнуў рукой. «А паеду я ў Маскву, у Траццякоўку! – мільганула шалёная думка. – Тым больш, што абяцаў Кольку, ды і аванс, які ён даваў, даўно паспеў праесці...»

Мастак з'ездзіў на вакзал і купіў білет на бліжэйшы цягнік. Ні жонцы, ні сыну нічога не сказаў. «Потым патэлефаную, а то не пусцяць». Ужо седзячы ў вагоне, успомніў: у яго ж няма мабільнага тэлефона! Аднак цягнік ужо крануўся, за акном пацяху паплыў перон, і Касец зміры ўся з лёсам. Што-небудзь прыдумаецца... А патэлефанаваць жонцы можна будзе і ад Монціка з Масквы. «Але Колька нават не ведае пра мой прыезд! А калі ён у камандзіроўцы?..» Ад такой перспектывы ў Касца ў роце перасохла. «Ідыёт бязмозглы! І што ты ў гэтай Маскве рабіць будзеш? Ні знаёмых, ні родзічаў, ні грошай...»

На шчасце, Монцік быў дома. Нягледзячы на «познюю» раніцу: пакуль Мішка дабраўся да Купчына, дзе жыў яго сябра, гадзіннік прапікаў паўдня.

– Вачам сваім не веру! – пахмурны «пасля ўчарашняга» твар Мікалая імгненна прасвятлеў. – Вельмі дарэчы – разумееш, я ўчора аб'ект «закрываў» з заказчыкам, давялося злоўжываць... Толькі думаў палячыцца, а тут ты. Ну, што там у мяне ў халадзільніку завалялася?

– А як жа галерэя? – убачыўшы тое, што «завалялася» ў халадзільніку, слаба паспрабаваў супраціўляцца Мішка.

– Паспееш! – адрэзаў Монцік. – Куды яна дзенецца ад Масквы-ракі? Як стаяла ў Лаўрушынскім завулку, так і будзе стаяць. Малайчына Павел Міхайлавіч, добрае месца для галерэі выбраў.

Ад здзіўлення Касец аж гарэлкай папярхнуўся – ніколі раней яго сябра такімі ведамі па гісторыі мастацтва не валодаў.

– Чаго твар скрывіў? – пахрумстваючы салёным гуркам, засмяяўся Мікалай. – Я ж табе, Мішка, год таму ў Брэсце казаў, што да твайго прыезду рыхтаваўся і наведаў Траццякоўку. Для агульнага, так бы мовіць, развіцця. Каб не ўдарыць у гразь сваёй фізіяноміяй перад лепшым сябрам. З таго часу адрас у памяці і захаваўся... Ну, добра, давай па другой, Мішка, сёння ўсё роўна ў Траццякоўку не пойдзем, я не ў тым стане, каб да мастацтва далучацца. Ды і ты з дарогі прытаміўся. Адпачнём пакуль, а заўтра з раніцы паедзем культурныя каштоўнасці аглядаць.

...Міхаіл пацяху апрытомнеў. За акном толькі-толькі пачынала світаць. Галава – быццам свінцом налітая. Кавалкі нейкіх няясных малюнкаў: то мастаку здавалася, што Іван Грозны не сына свайго Івана дапытвае, а яго, Касца, то бачыў сябе вярхом на чырвоным кані ў карціне Пятрова-Водкіна. «Што за навала такая?! Во дапіліся мы з Колькам, – напалохаўся Касец. – Так недалёка і да белых конікаў... А дзе ж сам Колька?»

На стале стаяла недапітая бутэлька гарэлкі, а пад сталом валяліся – «адзін... два... тры...» – парожнія.

– Нічога сабе! – усхапіўся Мішка. – Няўжо гэта мы ўдвух... з Колькам? А ў Траццякоўку я так і не трапіў!

– Як гэта не трапіў?! – абурыўся Монцік і падышоў да сябра. – Учора наведалі! Ты яшчэ лекцыю чытаў пра роль асобы Паўла Міхайлавіча Траццякова ў развіцці рускага выяўленчага мастацтва.

– Брэшаш! – ахнуў Касец. – Быць такога не можа, каб я не помніў наведвання Траццякоўкі...

– А ты не помніш? – здзіўленне сябра было шчырым. – Мы ж з раніцы ўчора пахмяліліся і адразу ў Траццякоўку паехалі. Я казаў, што не трэба па п'янцы... А ты: у самы раз, маўляў, пад лёгкім кайфам табе дойдзе лепш... Няўжо нічога не помніш?

– Пайшоў ты, Колька, ведаеш куды! – пакрыўдзіўся Касец. – Зноў ты са сваімі розыгрышамі! Нікуды мы не ездзілі... Скажы, што жартуеш.

– Дзівак-чалавек... Навошта мне жартаваць? – Монцік працягваў недаверліва глядзець на сябра. – А можа, гэта мне прыснілася? Можа, мы і сапраўды нікуды не ездзілі? Праседзелі тут, за гэтым сталом, два дні... Але чаму ж я так выразна памятаю, як ішлі ў галерэю, як аддавалі курткі ў гардэроб, як ты расказваў супрацоўніцы гісторыю Траццякоўкі, спрачаўся з ёй з нагоды карціны Пятрова-Водкіна «Купанне чырвонага каня»...

Адчуўшы няўпэўненасць у голасе Монціка, Касец пачаў пакрыху супакойвацца. Вядома ж, гэта Колька ўсё пераблытаў, ні ў якай галерэі яны не былі, а прап'янствавалі двое сутак у кватэры... Такое з імі і раней здаралася, калі Монцік «адпачываў» у Брэсце ад сваіх бізнесклопатаў.

– А гэта што?! – бадзёры голас Колькі вывеў Касца з задумення.

– Што?

– Вось! На табе, – Монцік падсунуў пад нос Мішку два серабрыстыя металічныя кругляшы, на якіх былі выціснуты лічбы 13 і 14. – Жэтоны з гардэроба. Мы курткі свае ў Траццякоўцы пакінулі!

– Не можа быць!..

Касец раптоўна замоўк, нахмурыўся, думкамі апынуўся недзе далёка...

Паехалі ў Траццякоўку. Пачутае іх сапраўды ацверазіла. Гардэробшчык расказаў, як учора яны ў скульптурнай зале пілі на брудэршафт з бронзавым Пятром Першым. Ахоўнік хацеў выклікаць міліцыю, але дзяжурны адміністратар Ганна Іванаўна не дазволіла, бо беларускі мастак здзівіў яе сваімі ведамі па гісторыі Траццякоўкі, расказваючы такія падрабязнасці, якіх нават яна не ведала.

– Ганна Іванаўна прасіла вас зайсці сёння, – сказаў гардэробшчык. – Каб як толькі прыйдзеце – адразу да яе!..

Але Касец ужо выбег на вуліцу. Монцік забраў у гардэробшчыка курткі і дагнаў сябра за два кварталы ад Траццякоўкі. Той быў сам не свой, азіраўся па баках, не пазнаваў Монціка, мармытаў пад нос нейкія незразумелыя словы і настойліва ішоў у напрамку Беларускага вакзала. Перад самым адпраўленнем цягніка ён, нарэшце, зірнуў Мікалаю ў вочы і прамовіў:

– Усё, Коля, больш ні-ні!

Мастак сваё слова стрымаў і больш так і не дакрануўся да гарэлкі – такое моцнае ўражанне зрабіў на яго візіт у Траццякоўскую галерэю...

*г. Брэст.*



# Чорны гумар



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




## Як сабаку мы кармілі

Бім трымае костку ў роце.
Згаладаўся... Што рабіць?
Тата з маці – на рабоце:
Чым сабаку накарміць?

Для спажыўнасці абеду
Сала мы далі шматок,
З морквы маміну катлету,
Каб вастрэў сабачы зрок.



На дэсерт, на край талеркі,
Мы паклалі шакалад,
Тры арэхі, дзве цукеркі,
Апельсін і мармелад.

Толькі Бім не стаў іх есці –
Не ахвочы да прысмак:
Пад сталом, у цёмным месцы,
Ліжа костку ён, дзівак.



**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*

Каб даведацца, хто раней прыйдзе з Вожыкам да Бабра, кідайце па чарзе кубік і хадзіце фішкамі па кружочках. Калі трапіце на чорны ці ружовы кружок – хадзіце па стрэлках, на чырвоны – прапусціце ход. У дарогу!



**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

*Лічылка*

## Каму вадзіць?

Каля вёскі блізка
Прабягала ліска.
Бегла з поля
У гаёк
І згубіла
Грабянёк.

Дзеці крочылі
Ў маліны,
Грабянёк знайшлі
Лісіны.
І аднеслі да нары
У задумлівым бары.

Ліска ўдзячная была,
Браць маліны
Памагла.
Грабянёк
На пні ляжыць.
Хто не быў –
Таму вадзіць.






Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

**Таццяна ЖУКОЎСКАЯ**

## Як Сланечнік выратаваў людзей

*Казка*



Самая жыццярадасная і сонцалюбівая кветка на свеце — гэта сланечнік. Ён павернуты да сонца нават тады, калі яно хаваецца за хмару. Я раскажу табе гісторыю пра вясёлы і добры Сланечнік, які выратаваў цэлы горад ад суму.

У даўнія-даўнія часы на ўскраіне маленькага горада рос Сланечнік. Лета было гарачае, ішлі цёплыя дажджы — і Сланечнік вырас такі высокі, што мог бачыць увесь горад. Неўзабаве ён заўважыў нядобрае: па вуліцах горада хадзілі вельмі сумныя людзі. Дзеці таксама не смяяліся і не сваволілі. І яшчэ ў горадзе не раслі ніякія кветкі.

Сланечнік вельмі здзівіўся, бо ён заўсёды быў вясёлы і жыццярадасны. І аднойчы, калі прыляцелі гарадскія ластаўкі, спытаў:

— Вы не ведаеце, чаму людзі такія сумныя?

— Злая вязьмарка паслала праклён на горад за тое, што яе ніхто не любіць, — адказалі ластаўкі.

— Хіба можна любіць зло? — здзівіўся Сланечнік. — Трэба вылечыць людзей ад суму.

Думаў-думаў Сланечнік ды прыдумаў, як дапамагчы гарадскім жыхарам пазбавіцца ад праклёну вядзьмаркі. Страсянуў ён з усіх сіл сваёй галавой — і пасыпаліся семкі. А семкі яго ад усялякай нечысці, ад злых чараў абараняюць. Толькі жыхары горада гэтага не ведалі, таму і не звярнулі на іх ніякай увагі. Паклікаў Сланечнік ластавак, папрасіў, каб разнеслі семкі па ўсім горадзе. Пагадзіліся ластаўкі і да кожнага дома, да кожнага ганка прынеслі ў дзюбках семкі Сланечніка.

Прайшоў час. Каля кожнага дома пачалі вырастаць сланечнікі. І чым вышэй яны падымаліся, тым часцей з'яўляліся ўсмешкі на тварах людзей. А добры Сланечнік глядзеў з вышыні на горад і радаваўся.

Калі сланечнікі сталі такімі ж высокімі і прыгожымі, як наш Сланечнік, яны павярнулі свае галовы да сонца — і чары злой вядзьмаркі ўмомант зніклі. Так Сланечнік выратаваў цэлы горад ад суму і падарыў дзецям і дарослым сонечныя ўсмешкі.



**Дапамажы зайку трапіць у норку.**






## ЖАРТЫ

### Не мае ногі

Вяртаўся з кірмашу п'яны шавец. Паваліўся на дарозе ды так моцна заснуў, што і не чуў, як нехта зняў з яго боты.

Праз нейкі час ехаў там чалавек.

— Прымі ногі з дарогі! — крычыць ён шаўцу.

Раскатурхаўся шавец, глянуў на свае босыя ногі і кажа:

— Едзь, чалавеча. Гэта не мае ногі — мае ў ботах.



### Ну і юшка!

Сядзяць на беразе возера рыбакі ды байкі баюць, бо рыба не клюе.

Малады рыбак кажа:

— Ну, і юшку зварыў я надоечы!.. Кінуў у кацялок трох ёршыкаў, зварыў, адцадзіў. Потым у той вар кінуў трох карасікаў. Зноў зварыў, зноў адцадзіў і кінуў у вар трох плотак... Зварыў... Юшка атрымалася — за вушы не адцягнеш!

Стары дзед-рыбак не стрымаўся:

— Вось я раней юшку варыў! Рыбы тады было ў азёрах — вады не зачэрпнуць! Дык я раскладу на беразе вогнішча, нагрэю тры вялікія камяні, а потым кідаю ў возера. Вада закіпіць — рыба варыцца: і ёршыкі, і карасікі, і плоткі. А як крыху астыне — чэрпаю вядром. Юшка атрымлівалася — язык праглынеш!



### Перахваліў

Купіў чалавек гадзіннік і пытаецца ў крамніка:

— А ці добра ён ходзіць?

— Вельмі добра. Не ходзіць, а бегае. Бачыш, яшчэ поўдзень на дварэ, а ён ужо шэсць гадзін паказвае...

**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

## Лайдак на сенакосе


*1961 г.*

— Усё, здаецца, узяў, толькі касу забыў.

Малюнак А. ВОЛКАВА.

## Анекдоты

У суседа загарэўся свіран. Ахрэм кажа жонцы:

— Пайду дапамагу тушыць, а то яшчэ ягоныя мышы да нас уцякуць.



Яўхім капае яму. Сусед цікавіцца:

— Што ты робіш, братка?

— Сякеру згубіў. Во шукаю...

**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць, г. п. Акцябрскі.*


*1961 г.*

— А цыбуля навошта?

— А раптам самагоншчыкаў накрыем!

Малюнак А. ЧУРКІНА.




## ХТО ВІНАВАТЫ?

*Фельетонны жарт*

Аднойчы крочыла дамоў,
Душа санет вяла прыўзнята...
Шкада, не ведаю замоў:
Наперарэз мне – кот з-за хаты.
Адваяваць хацела шлях,
Ката загнала на бярозу,
А ў сэрца ўжо закраўся страх:
«Ну што благое збыцца можа?»
У міг адзін прапаў настрой,
Душа санет свой не дапела,
Трывожных дум узвіўся рой,
Далей дамоў іду нясмела.
А з-за парога, як брыда,
Бяда зірнула хціва ў вочы –
Па хаце плешчацца вада,
А ў ванне муж храпе, як ноччу.
Ну і пачаўся ж кавардак!
Суседзі грукаюць у дзверы:
«Ах, так вас, гэтак, ды растак!
Намоклі ўсе нашы шпалеры.
Мы пададзім на вас у суд,
У нас жа ўсё было пад «еўра»!»
І ўжо над мужам самасуд
Чыніць хацела гэта хеўра.
Ледзь я стрымала націск той –
Так хвалявалася за мужа...
А як змагалася з вадой,
Дык паслізнулася на лужы.
Ў назе – закрыты пералом,
Хаджу па хаце з кастылямі,
А муж на кухні за сталом
Сядзіць з бутэлькай і блінамі.
Ды важна гутарку вядзе,
Нібы прафесар ва «ўніверы»:
«Не збыцца б гэтакай бядзе,
Каб не дала кату ты веры».
Шпурнуць хацела кастылём,
Каб у гарэлцы ведаў меру,
Ляцеў бы мілы мой кулём,
Як на бярозу кот, за дзверы!

**Рэгіна РЭЎТОВІЧ,**
*г. Дзяржынск.*

## ЯК КУРЫЦА ГАСПАДЫНЮ ВУЧЫЛА

*Прытча*

Вольга Міхайлаўна, суседка па дачы, аднойчы прапанавала:

– Хочаш, раскажу табе, як курыца мне на старасці гадоў параду дала?

Я ўжо ведала, што Вольга Міхайлаўна пра самыя звычайныя рэчы ўмее расказваць з такім тонкім гумарам, што адразу і не зразумееш, ці жартам гэта, ці ўсур'ёз. Я згодна кіўнула галавой і падрыхтавалася слухаць.

– Вывела мая квахтуха дзевяць куранят і так ужо іх глядзела! Ніколі сама не схопіць яйка, зваранае для пісклят, не накінецца, як іншыя, на проса. Усё сваіх дзетак корміць, шкадуе іх. Спачатку вадзіла куранят каля хаты, а потым, калі яны падужэлі, пачала адыходзіць з імі далей, туды, дзе раней сама бегала з курамі.

Кураняткі раслі хутка. І вось аднойчы прыбеглі яны есці разам з маці, а яна іх – ад сябе! Нават дзяўбці пачала. Тыя да яе горнуцца, не разумеюць, што да чаго, а яна зноў адганяе. Кінула іх і пайшла да курэй.

Вольга Міхайлаўна змоўкла.

– І ўсё? Што ж тут павучальнага? – спытала я.

– А тое, што калі б я свайго сынка Сярожку дзеўбанула вось так, калі яму споўнілася васямнаццаць, дык не цягнуў бы з мяне жылы да трыццаці з гакам!..

**Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*






Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Валянціны ГАРБАЧУК.

## АХ, ЧАРНІЦЫ!

Рукі чорныя і зубы –
Гэты колер зараз любы.
Час чарніц настаў у лесе,
Кожны кусцік гронкі звесіў
Ягад смачных і духмяных,
Не заўсёды паслухмяных.
Перад імі, як малая,
Я паўзу на жываце,
Камары ж гудуць, шпіляюць,
Не схаваешся нідзе!
Бы з засады, пазіраюць,
Сочаць ягады за мной:
То у хованкі гуляюць,
То пакажуцца гурмой.
Ах, чарніцы вы, чарніцы!
Памаглі б лепш, жартаўніцы!
Усміхаюцца чарніцы –
Чарнабровыя сястрыцы:
«Калі хочаш смакаты,
Пашчыруй да ламаты!..»

**Алена ЖЫХАРАВА,**
*Мінскі раён,*
*в. Шчомысліца.*



# ІМПАРТ

## Усмешкі розных шырот

Маці пытаецца ў маленькага Пеле:

– Каго табе больш хочацца – сястрычку ці брацiка?

– Калі гэта не вельмі паўплывае на тваю фігуру, я аддаў бы перавагу веласіпеду...



Капітан запісаў у карабельным журнале: «Штурман сёння быў п’яны».

Праз некалькі дзён дзяжурыў штурман. Ён запісаў у карабельным журнале: «Сёння капітан быў цвярозы».



Малюнак Генадзя ЧАГАДАЕВА (Расія).



Малюнак Адольфа МХТАРАМІ (Іран).



Малюнак Давіда ЭЎЗІНА (Чэхія).



Малюнак Дачуана КСІЯ (Кітай).



Малюнак Уладзіміра АБРАЯНА (Арменія).



Малюнак Міхаіла ЗЛАТКОЎСКАГА (Расія).



Малюнак Любаміра КОТРА (Славакія).

☺ ☺ ☺

– Запомні, сынок: толькі ранняй пташцы дастаецца чарвячок, – сказаў павучальна бацька сыну. – Таму патрэбна ўставаць рана.

– А як наконт чарвячка? – спытаў хлопчык. – Ці не дурань ён, што ўстаў яшчэ раней за пташку?

– Ты памыляешся, – сказаў бацька, падумаўшы. – Гэты чарвяк увогуле не клаўся спаць: ён вяртаўся з вечарынкі дахаты.




Малюнак Раберта МАНГОЗІ (Італія).



Малюнак Алега ДЗЕРГАЧОВА (Канада).



Малюнак ДОСТМАХАММАДЗІ (Іран).



Малюнак Севекета ВАЛАЖА (Турцыя).

ІМПАРТ